# Вялікія справы

*Вялікі пост нагадвае нам, што Пан Езус памёр за нас на крыжы. Гэта гістарычны факт. Ён памёр, бо моцна любіць цябе, тваіх тату і маму, бабулю і дзядулю, кожнага чытача нашага часопіса. Ён любіць кожнага чалавека.*

*Езус памёр за мае і твае грахі. Сваёй смерцю Ён адчыніў для ўсіх нас браму Неба. Хрыстус калісьці запрасіў усіх нас стаць жыхарамі Нябеснага Валадарства. Як дайсці туды?*




**Пасціць** — гэта не толькі не есці мяса. Магчыма, ёсць сэнс адмовіцца на гэты час яшчэ ад чагосьці смачненькага, што любіш. Каб тыя грошы, на якія ты купляў бы сабе тое смачненькае, аддаць камусьці, у каго іх не хапае.




**Пост** — гэта не дыета. Некаторыя ператвараюць яго ў барацьбу са шкоднымі калорыямі. Ты ж пастарайся ўвесь час памятаць, чаму ты пасціш.

**Пост** — гэта яшчэ і ўменне адмовіцца ад чагосьці выгаднага, прыемнага, зручнага. Асабліва калі ты ведаеш, што іншыя ўсяго гэтага не маюць.







Ці молішся пацеры нават тады,
калі няма часу?
Ці молішся за тых сваіх равеснікаў,
якія не маюць шмат адзення,
цацак і часта нават ежы?




*Малюнкі Міхася Свірскага, Дзіяны Паспелавай, Аляксандра Сухаварава і Анастасіі Каліноўскай.*



# Вялікага посту

*Праз навяртанне да Бога. Праз святую споведзь. Праз добрыя ўчынкі. Праз адмаўленне ад раскошы, ахвяраванне чагосьці добрага тым, каму яно вельмі патрэбна.*




Ці з'ясі тое, што табе не вельмі падабаецца, і не будзеш пры гэтым круціць носам?

Ці ўмееш раніцай выскачыць з пасцелі, а не вылежвацца на ёй?






Ці ўмееш прабачыць тым, хто цябе пакрыўдзіў?

Ці ўмееш выбраць тое, што найбольш цяжкае для цябе?




**Увага!** Чым лепш ты арганізуеш кожны дзень Вялікага посту, тым весялейшы будзе Вялікдзень. Дык вясёлых святаў пасля Вялікага посту!

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (67)/2015 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек, мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70X90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 1475.
Падпісана да друку 11.03.2014 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць



# Урокі айца Віталія

Быў гарачы летні дзень. Міколка разам з Алегам і Дзянісам гулялі ў футбол, але прайгралі, і настрой быў сапсаваны. Алег прапанаваў:

— Гайда ў поле, дзе стары дот!

— А як мы праз рэчку пройдзем? — запытаўся Дзяніс.

— Я ведаю брод.

У Міколкі адразу перад вачыма паўстала мама, якая забараняла яму аднаму хадзіць на рэчку. А тата хоць і абяцаў разам з ім павудзіць рыбу, але таксама казаў, каб адзін сын туды не хадзіў.

— Мікола, пайшлі! — данеслася да яго.

— Ды мне трэба дадому...

— Я ведаю, яму мама не дазваляе аднаму на рэчку хадзіць. Ён жа маленькі яшчэ! — засмяяўся Дзяніс.

— А вось і не! Пайшлі! — рэзка выпаліў Мікола. Ён не любіў, калі яго называлі маленькім.

Брод праз рэчку быў не надта глыбокі. Мікола ішоў трэці. На сярэдзіне ракі вада ўжо даходзіла вышэй каленяў. Міколу стала страшна, ён спатыкнуўся і плёхнуўся ў ваду...

Яго сустрэла мама:

— Што здарылася? Чаму ты мокры?

— Мама, я... — у галаве круціліся розныя апраўданні і гісторыі, але Мікола вырашыў не падманваць — я пайшоў на рэчку і... уваліўся...

— Я ж прасіла цябе не хадзіць на рэчку без нас! — папракнула мама. — Дзякуй хоць, што шчыра прызнаўся!

— Мам, я зразумеў, чаму вы з татам забаранялі мне хадзіць на рэчку. Там сапраўды небяспечна. Прабачце... — прашаптаў Мікола і апусціў галаву.

Сябры! Шмат розных непрыемнасцяў можа здарыцца з намі, калі мы не слухаемся бацькоў. Таму Бог наказвае нам, каб мы шанавалі і слухаліся нашых мамаў і татаў.

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

V
Не забівай



*Пан Бог наказаў нам у чацвёртай запаведзі шанаваць сваіх бацькоў. Ці атрымліваецца ў нас заўсёды бездакорна выконваць гэтую запаведзь? Вось што пра гэта думаюць юныя католікі з парафіі святога Андрэя Баболі з Полацка.*

* Трэба паважаць сваіх бацькоў, дапамагаць ім, слухацца іх, бо без іх не было б і нас.
*Максім Бераснёў, 12 гадоў, Наваполацк.*





* Дапамагаю бацькам, малюся за іх.
*Мікіта Якушын, 10 гадоў, Полацк.*

* Бацькі падаравалі нам жыццё, яны кожны дзень дараць нам сваю любоў. Мы павінны дапамагаць сваім бацькам і любіць іх усім сэрцам.
*Улляна Пялена, 12 гадоў, Полацк.*





* Я стараюся радаваць сваіх бацькоў добрымі адзнакамі, не засмучаць іх.
*Марыя Булах, 9 гадоў, Полацк.*

* Бацькоў трэба шанаваць, бо яны ў нас адны і вучаць нас таму, што ведаюць самі. Нельга, каб дзеці былі прычынай смутку для бацькоў.
*Аляксандра Кузьмановіч, 10 гадоў, Полацк.*





*Бацькі падарылі нам жыццё. Яны нас любяць, бо мы іх маленькае шчасце. Трэба любіць сваіх бацькоў, добра гаварыць пра іх, дапамагаць ім і пажылым людзям.
*Марына Гараніна, 12 гадоў, Полацк.*

*Падрыхтавала сястра эўхарыстка Алена Панцялей.*

X
Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму

IX
Не пажадай жонкі бліжняга твайго

VIII
Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго

VI
Не чужалож

VII
Не крадзі

# Прывітанне з Камеруна!

**Камерун** — краіна ў заходняй частцы Цэнтральнай Афрыкі з насельніцтвам 19,3 млн чал., з якіх 40 адсоткаў — хрысціяне.

*Госць часопіса — валанцёр Арцём Ткачук, які цяпер працуе ў каталіцкай місіі ў Камеруне.*

*— Арцём, рады вітаць вас на старонках «Маленькага рыцара Беззаганнай». Мы даўно марылі распавесці нашым чытачам пра місіянерскую працу, і вось нарэшце з'явілася такая магчымасць, бо вы разам з вашай сяброўкай Мартай Бекіш служыце цяпер у Камеруне. Скажыце, чым адрозніваецца Камерун ад Беларусі?*

— Гэта зусім іншы свет. У Беларусі дзеці не вельмі хочуць хадзіць у школу, тут жа наадварот — любяць. У нас адукацыя бясплатная, а ў Камеруне за школу трэба плаціць. Таму шмат дзяцей не маюць магчымасці вучыцца. У Беларусі дзеці часта не слухаюцца бацькоў і робяць «што душа пажадае». Тут жа малодшыя заўсёды слухаюцца старэйшых, а дзеці вельмі шануюць бацькоў.

*— Чым вы з Мартай займаецеся ў Камеруне?*

— Мы працуем з дзецьмі. У нашым дзіцячым доме жыве 30 чалавек узростам ад 1 года да 23-х.



Яшчэ наша місія аплочвае адукацыю амаль 200 чалавекам з бедных сем’яў. Мы праводзім дадатковыя курсы, факультатывы. Дапамагаем дзецям вучыць ангельскую мову, матэматыку, геаграфію, асновы астраноміі. А таксама вучым іх іграць на гітары, арганізуем розныя гульні, святы, спартыўныя заняткі. Працы вельмі шмат.

— *Сапраўды! Раскажыце яшчэ пра камерунскіх дзяцей. Цікава ж...*

— Камерун — бедная краіна, таму дзеці ўмеюць цаніць усё, што маюць. Кожная вопратка — радасць, кожны ласунак — шчасце. Тут не можа быць такога, каб хлопчык альбо дзяўчынка заявілі, што не хочуць чагосьці есці. Людзі тут ядуць 1-2 разы ў дзень, таму цэняць ежу, не раскідваюць рэшткі пад ногі, як гэта можна часам убачыць у нас альбо дзесьці яшчэ.

— *А цукеркі яны часта ядуць?*

— Адна выхаванка нашай місіі цяпер вучыцца ва ўніверсітэце ў Польшчы. Пасля прыезду з Камеруна яна ў свае 20 гадоў упершыню была ў стаматолага. Лекар сказаў, што яе зубы, нібы ў маленькага дзіцяці, — ніякага карыесу і іншых хваробаў. Усё таму, што тут вельмі рэдка ядуць слодычы.



— *А як вольны час праводзіце?*

— Тут усе з дзяцінства вельмі добра танчаць і спяваюць, гэта ў іх у крыві. Падчас дыскатэкаў у нашай місіі старэйшыя хвацка кідаюцца ў скокі разам з малодшымі, і ніхто не цураецца адзін аднаго. Танец — адпачынак і радасць для кожнага!

— *Раскажыце, калі ласка, пра камерунскія школы. Яны падобныя да беларускіх?*





— Першае і галоўнае адрозненне — яны платныя і каштуюць нятанна. Дзеці праводзяць у школе нашмат больш часу, чым у Беларусі. У школе няма бібліятэкаў. Усе падручнікі бацькі мусяць купляць самі, таму шмат дзяцей кніжак проста не маюць. Кожную чвэрць вучні здаюць экзамены. Адзнакі тут ад 0 да 20.

*— Ого! А ёсць там у вас другагоднікі?*

— Каб перайсці ў наступны клас, трэба мець сярэдні бал вышэй за 10. У адрозненне ад Беларусі, застацца вучыцца на наступны год тут — звычайная з'ява. Асабліва для выпускнікоў. Шмат хто з іх не здае выпускных экзаменаў і застаецца на другі год. У нашай місіі ёсць хлопец, які вучыцца ў выпускным класе ўжо 3 гады, два хлопцы — па два гады. Тут усе ходзяць у школьнай форме. Кожная школа мае сваю форму, і для кожнага вучня гэта гонар — насіць школьную вопратку.





*— А вашы дзеці гарэзлівыя?*

— Як і ўсе дзеці! Найбольш уразіла, што настаўнікі б'юць вучняў. Гэта не значыць, што школа нагадвае камеру, але за вельмі дрэнныя паводзіны настаўнік можа й адлупцаваць. Бацькі не супраць. Я чуў гісторыі, калі на бацькоўскіх сходах яны скардзіліся дырэктару, што настаўнікі мала б'юць іх дзяцей.

*— На якой мове вы размаўляеце з дзецьмі і дарослымі?*

— Па-французску. У Камеруне дзве дзяржаўныя мовы: французская і ангельская. Але па-ангельску размаўляюць у маленькай частцы краіны. Увогуле ж хачу параіць усім чытачам вучыць мовы, бо яны заўсёды спатрэбяцца. Напрыклад, каб паехаць у якасці валанцёра на місіі ў Афрыку.

*Гутарыла Ірына Жарнасек.*

Сябры! Мы вырашылі працягнуць нашу гутарку з Арцёмам і ў наступным нумары, бо, згадзіцеся, нам так рэдка шчасціць атрымаць пасланне ажно з Афрыкі!

# Ці ёсць?

Адзін цырульнік стрыг свайго кліента і разгаварыўся з ім пра Бога.

— Калі Бог ёсць, то чаму на свеце столькі хворых людзей? — абураўся ён. — Столькі сіротаў на свеце! Столькі войнаў! Калі б Бог быў, то не было б на свеце ні бедаў, ні войнаў. Цяжка ўявіць, што Бог любіць нас і дапушчае ўсё гэта. Таму я не веру ў Яго існаванне!

Кліент сказаў:

— А ведаеце, цырульнікаў няма.

— Як гэта? — здзівіўся цырульнік. Я ж во ёсць, шмат гадоў стрыгу людзей.

— Ды не! — усклікнуў кліент. — Калі б у нас былі цырульнікі, то не было б столькі зарослых, няголеных людзей! Вунь, бачыце, ідзе калматы па вуліцы?..

— А пры чым цырульнікі?! Гэтыя калматыя самі не прыходзяць да мяне!

— Дык у гэтым жа ўся справа! — згадзіўся кліент. — І я ж пра тое самае: Бог ёсць! Проста людзі не шукаюць Яго і не прыходзяць да Яго. Вось чаму ў свеце столькі бедаў!

*Малюнак Марыны Рудчык.*



*Дзеці, вы ад Бога....*

1 Ян 4, 4

Ірына ЖАРНАСЕК

# Вера

— Я іх не разумею, — каторы раз буркнуў сабе пад нос Мацвей, а Данік зноў паныла падтрымаў:

— Я таксама.

Ужо больш за гадзіну яны сядзелі ўдвух у сваім пакоі, нібы ў сховішчы, паўтаралі зрэдку штосьці пра тое, што яны не разумеюць, што адбываецца, і надзімаліся, нібы тыя шарыкі. Але шарыкі, калі іх празмерна надзімаць, могуць і лопнуць. Бах! І ад шарыка — адна падраная абалонка...

— А калі мяне прывезлі з раддома, яны гэтаксама насіліся? — запытаў Данік.

— Цябе-е? — брат нахмурыўся і крутнуў галавой: — Не памятаю.

— Што, зусім не памятаеш?

— Сказаў жа! Мне тады чатыры гады было...

— І што? Мне вунь таксама чатыры... было нядаўна...

Памаўчалі. Потым Мацвей падняўся і сказаў як адрэзаў:

— Пайшлі, самі знойдзем што паесці! Учора цётка Таня дранікаў прынесла.

Але дранікаў ужо не было.

— Тата з'еў, — уздыхнуў Данік, — ён, калі збіраўся ехаць па маму ў раддом, казаў, што галодны, як воўк.

— Слухай, можа памакаць хлеб у смятану? А што? Я калісьці еў — смачна.

На кухню зазірнуў тата, схапіў нейкую бутэлечку і кінуў хлопцам:

— Во малайцы! Вы ўжо ў нас дарослыя! За адну ноч выраслі!

Сказаў і знік. Хлопцы ўтаропіліся адзін на аднаго: выраслі? за ноч? як гэта?

— А што, грыбы вырастаюць за ноч, — сказаў Мацвей. — Памятаю: увечары мы з татам хадзілі па бярэзніку, за бабуліным гародам — нічога. А раніцой ён там цэлы кошык назбіраў!

Данік пабег у калідор, уключыў святло і гукнуў:

— Хадзі! Памераемся!

З пакоя азвалася мама:

— Дзеці, цішэй! Яна ж можа пужацца!





— Трэба ўключыць тэлевізар, няхай прывыкае да гукаў, — прапанаваў тата. — Там якраз футбол ідзе...

— Забывайся ты ўжо на футбол: траіх дзяцей маеш! — адказала мама.

Перспектыва таго, што тата забудзецца на футбол, зусім не спадабалася хлопцам, і Мацвей праслізнуў у залу ды ўключыў тэлевізар, пачаў шчоўкаць пультам.

— Гучна не рабі, а то і праўда напужаецца тая піскля, — сказаў Данік.

Як іхняя сястра плача, хлопцы яшчэ не чулі. Яна спала, калі яе прывезлі, маўчыць і цяпер, але яны былі ўпэўненыя, што калі ўжо заплача, то піскліва. Бо ўсе яны, гэтыя дзяўчаты, аднолькавыя!

— Во! Футбол! — гукнуў Мацвей.

З пакоя выйшаў тата з гурбой пялюшак, і неўзабаве ў ванне палілася вада. З прыадчыненых дзвярэй паказалася татава галава:

— Які лік?

— Падай сурвэткі! — мамін голас з пакоя.

Данік рашуча пайшоў да мамы і запытаў:

— Дзе яны?

— Данічак! — узрадавалася мама. — Вазьмі вунь на камодзе. Вы там паелі што-небудзь? Мы во пераапранемся ды з вамі, браточкамі, зараз пазнаёмімся! Так, наша слаўная? — мама схілілася над «слаўнай», і Данік выйшаў.

— Пайшлі есці хлеб са смятанай!

Надзвычай гэта смачны наедак — чорны хлеб з белай смятанай. Хлопцы знайшлі яшчэ ў лядоўні вішнёвы кампот, папілі, пакідаючы на тварах чырвоныя сляды, якія разам з белымі ад смятаны стваралі на іхніх тварах жыццярадасную карціну.

Дзверы адчыніліся, і тата шэптам паклікаў:

— Хадзем знаёміцца з сястрой!

Пайшлі, не спяшаючыся, бо

так вырашыў Мацвей яшчэ раней — а каб малая не задавалася!

— Рукі памылі? — запытала мама.

Пайшлі мыць рукі, а калі праз хвіліну вярнуліся ў пакой, мама пырснула смехам і заціснула даланёй рот.

— Мурзацікі вы нашы! — абняў іх тата. — От сястра з вас смяяцца будзе!

Але мама супакоіла:

— Зараз наша дзяўчынка засне, і я памыю вас.

— Што мы, малыя хіба? Самі не можам? — сказаў Мацвей, і яны зноў пабеглі ў ванную, церанулі мокрымі далонямі сабе па тварах ды хутчэй— да сястры.

— Як яе завуць? — гукнулі хорам.

Дзяўчынка расплюшчыла свае блакітныя, нібы аблачынкі, вочы і паглядзела на братоў. Яна разглядвала іх і зусім не збіралася плакаць.

— Як цябе завуць? — перапытаў Данік.

— Калі вы не супраць, — сказала мама, — я хацела б, каб мы назвалі яе Верай, бо мне... шмат веры спатрэбілася для таго, каб яна з’явілася ў нашым доме...

— Калі ты так хочаш... — прамовіў Мацвей.

— Прывітанне, Вера! — сказаў Данік і памахаў сястры рукой. — Гэта мы, твае браты! Мы ўжо выраслі!

— Як грыбы — за адну ноч! — дадаў Мацвей.



*Мастак — Вольга Чарняўская.*







# Сустрэча ў прытулку





Нядаўна дзеці з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Наваполацку разам з сёстрамі змёртвыхпаўстанкамі, якія працуюць у гэтай парафіі, наведалі гарадскі прытулак для дзяцей.

Па розных прычынах дзеці трапляюць у гэты прытулак. У адных бацькі п’юць шмат гарэлкі, і таму цяжка з імі жыць. У другіх раптам здарыцца нейкі трагічны выпадак. У трэціх бацькі цяжка захварэюць, і дзеці, калі няма ніякіх сваякоў, вымушаны таксама быць нейкі час у прытулку.

Гэтая сустрэча была вельмі радасная. Наваполацкія парафіяне паказалі невялікую сцэнку «Сакрэт краўца». Потым усе разам размаўлялі, дзяліліся падарункамі, частаваліся смачным пірагом. І ўсім было вельмі добра разам. Як жа гэта важна — памятаць, што ты можаш падзяліцца дабром і радасцю з тымі, каму ў гэты час, можа, не надта весела й радасна!..

*Рыцар Яська*







# Старонка «божых каровак»

Прывітанне, мае дарагія сябры!

Даўно мы з вамі не бачыліся, амаль усю зіму. Ды я не губляла часу, а падрыхтавала для вас некалькі цікавых заданняў. Таму не будзем марудзіць, а возьмемся за працу! Узбройцеся, калі ласка, добрым настроем, уважлівасцю і знаходлівасцю.

## Згублены дзень

Да Віцевага брата зайшоў прыяцель, кінуў шапку на крэсла і прамовіў:

— Згублены ў мяне дзень.

Калі прыяцель пайшоў, Віця спытаўся брата:

— Як гэта можа згубіцца дзень? Хіба не ўсе дні аднолькавыя?

— Дні аднолькавыя па часе, — адказаў брат, — але яны бываюць розныя па справах. Калі чалавек не зрабіў ніякай карыснай справы або не навучыўся нечаму, каб ведаць болей, чым ведаў учора, то ён згубіў дзень.

З таго часу Віця, калі клаўся ў ложак, расказваў брату, што ён зрабіў за дзень, і заўсёды пытаўся:

***— Не згубіўся ў мяне дзень?***

***Сябры! А вы часта губляеце свой дзень?***

## ЗАЙЦАВА ЛІЧЫЛКА

Раз, два, тры, чатыры —
заяц вушы натапырыў.
Ідзе з лесу воўк, воўк,
і зубамі шчоўк, шчоўк.
Мы схаваліся ў кусты:
заяц, я і ты, і ты.
Ты ж, ваўчына, пачакай,
як схаваемся — шукай!



*Колькі зайцоў схавалася?*



# Лабірынт

Дзядзька Прут і цётка Ніць
прасцякоў пайшлі лавіць.
А падманваць прасцячкоў
запрасілі чарвячкоў.

* * *

Ой, сняжку насыпала!
Выводзь каня любімага.
За вяровачку-узду
цераз двор каня вяду,
з горкі ўніз на ім лячу,
на гару ледзь валаку.

* * *

Гнуты Пятрок
сцеражэ дамок.

* * *

Разумнік бачыў у ім разумнага,
дурань убачыў дурня,
баран угледзіў там барана,
а дзік заўважыў там дзіка.
І вось зазірнуў туды
Пецяа крадком,
і Пеця пабачыў
мурзатага братку.

* * *

Дзе ўткнецца мой хвост,
стане дзірка наўпрост.

* * *

Драўляная рэчка.
Драўляны чаўнок,
над чоўнам віецца
драўляны дымок.






*Увага: адгадкі зашыфраваныя ў «малюнку-«лабірынце».*

# ВЫНІКІ КОНКУРСУ

Як і абяцалі, у гэтым нумары мы падводзім вынікі конкурсу «Мая малітва».

Дзякуем усім, хто пажадаў прыняць у ім удзел. Не вельмі шмат вас было, але затое некаторыя працы нас парадавалі. У іх вы ў малюнках ці словамі выказалі сваю любоў да Бога і жаданне размаўляць з Ім, давяраць Яму самае дарагое.



Першае месца журы прызначыла **Веры Варанко** з Віцебска за працу з пластыліну «Малітва праслаўлення»;



другое — **Каці Навумчык** з Івянца за яе «Малітву любові»;



трэцяе — **Дзіне Маланковай** за малюнак «Езус у маім сэрцы».

Віншуем пераможцаў! Яны атрымаюць ад нас дыпломы і падарункі.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*





# увага:

Наш новы конкурс называецца **«Радасны хрысціянін»**. Папа Рымскі Францішак заахвочвае нас быць раднаснымі хрысціянамі. Раскажыце пра гэта ў вершах, у сваіх лістах, у малюнках, фотаздымках. Расказваць можна пра тых хрысціянаў, што ўжо цешацца хвалою ў Небе, г.зн. пра нашых святых. А можна таксама і пра тых, хто жыве побач з намі. Толькі памятайце: наша тэма — радаснае хрысціянства.



# конкурс!

Вось, як, напрыклад, намалявалі радаснага хрысціяніна — *святога Францішка Асізскага* — **Даша Паўлюкевіч** і **Арына Пятроўская** з Віцебска.

Поспехаў вам! І не марудзьце, бо радасныя хрысціяне ніколі не марудзяць.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*






# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

Пачатак публікацыі ў № 1 (55) за 2012 год.

## *Ойча наш*

**...адзін з вучняў Ягоных сказаў Яму: «Пане, навучы нас маліцца».**

Лк,11,1

Пасля Эўхарыстычнай малітвы мы ўсе молімся той малітвай, якой нас навучыў сам Езус Хрыстус, — *Ойча наш*. У ёй ёсць усё: наша любоў і вялікі давер да Айца нашага Нябеснага, і абяцанне Яму жыць па-хрысціянску.







Усе нашыя справы мы давяраем Богу, бо моцна верым і кажам Яму з глыбіні нашых сэрцаў: «...Тваё валадарства і моц, і хвала навекі!».







Святар звяртаецца да прысутных:

— Супакой Пана няхай заўсёды будзе з вамі.

Мы адказваем:

— І з духам тваім.

Потым святар кажа нам перадаць бліжняму знак супакою.

Усе перадаюць адзін аднаму знак супакою, адзінства і любові. Гэта вельмі важная хвіліна, і шкада было б, калі б ты ў гэтую хвіліну быў няўважлівы і на тваім твары не было прыязнай, светлай усмешкі.







## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

6

Сябры! Як вы заўважылі, заданні нашы ўскладніліся. Адных з вас гэта радуе, другіх засмучае. Першыя, як і раней, дасылаюць свае адказы, другіх нешта не відно, не чутно. Але мы будзем працягваць друкаваць нашы загадкі. Вы ж старайцеся іх адгадваць, бо цярплівы і горы агорае! Але пакуль што вы не спяшаецеся самі складаць крыжаванкі, рэбусы, але ж я, ваш пакорны *Маленькі рыцар Беззаганнай*, таксама хацеў бы адгадваць штосьці! Словам, чакаю і спадзяюся!

- Знайдзіце ў Бібліі не менш за тры цытаты пра пост.
- Як вы думаеце, чаму ў Вялікі чацвер мы віншуем нашых святароў са святам? Якое гэта свята?
- Якія Апосталы паклалі цела Езуса ў грабніцу? Каму яна належала?
- Чаму Пальмовую нядзелю ў нас называюць яшчэ Вербніцай?
- Як вы думаеце, чаму ў велікодныя дні мы вітаемся словамі «Хрыстус уваскрос!» і адказваем: «Сапраўды ўваскрос!». *Паспрабуйце паразважаць над гэтым.*
- Хто першы ўбачыў Уваскрослага Хрыста?
- А ты сустракаў калі-небудзь Уваскрослага Хрыста? Дзе і калі?

*Сябры! Я, як і раней, чакаю разам з вашымі адказамі прыгожых малюнкаў. Паспрабуйце праілюстраваць хоць бы адзін адказ.*

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 4 за 2014 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Анёл; Ян Хрысціцель; з вярблюджага воласу і скураны пояс; саранчу і дзікі мёд; каб забіць; каб пакланіцца і ўшанаваць Яго; Езус Хрыстус; Яго імя азначае: Бог з намі.

**«Ці ведаеш?»:** Прарок Самуіл; пастухом; граў на гуслях, арфе, складаў псальмы.

**Разгадка рэбуса:** Дзякуй.

**Нараджэнне Езуса і маё**

Езус нарадзіўся: у Бэтлееме; у стайні; у пялюшкі; пастухі, мудрацы; золата, смірну і ладан.

**Разгадка шыфроўкі:**

Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан.

Узнагароду за правільныя адказы атрымаюць: **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка і **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі, якія набралі па 17 балаў, разгадаўшы ўсе загадкі. *Віншуем пераможцаў!*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



## Рэбус






# АПОШНЯЯ ВЯЧЭРА

[Езус] устаў з-за стала, скінуў верхнюю вопратку і, узяўшы палатно, падперазаўся. Потым наліў вады ў місу і пачаў абмываць ногі вучням, і выціраць палатном, якім быў падперазаны (Ян 13,4–5).

*Да якога дня тыдня вядзе «шлях» ад рэчаў на малюнку? Знайдзі яго, і ты зможаш даведацца, у які дзень Вялікага тыдня адбываецца абрад абмывання ног.*








*Старонка сястры пастулянткі* **Яўгеніі Трапачовай** *з Супольнасці Сясцёр Змёртыхпаўстання Пана нашага Езуса Хрыста.*

# НАШЫ РУКІ ДА ПРАЦЫ ГАТОВЫ

На старонках Святога Пісання мы чытаем, што Божае слова — «светач для нагі» і «святло на сцежцы». Як святло на зямлі падтрымлівае жыццё, так і Святое Пісанне з'яўляецца крыніцай жыцця чалавека, які прагне быць дзіцем Бога. А яшчэ Божае слова заклікае нас змяняцца, станавіцца лепшымі, быць святлом для іншых.

Праную вам, дзецi, зрабіць сваімі рукамі невялікую свечку. Не, гэта не тая свечка, якую запальваюць на малітве. Наадварот, яе нельга запальваць, бо яна з паперы і будзе служыць для вас... закладкаю. А яшчэ няхай яна нагадвае вам, што вы таксама павінны быць святлом для іншых. У чарцяжах паспрабуйце разабрацца самастойна альбо з дапамогай дарослых. Раю вам знайсці ў Евангеллі адпаведныя словы і прыгожа напісаць на свечцы.


















# Галерэйка



Катэдральны касцёл Езуса Міласэрнага (Лера, 11 гадоў. Таня Буко 11 гадоў).



Касцёл святой Барбары (Вара Якаўлева, 7 гадоў. Маша Ціханенка, 7 гадоў).



Касцёл святога Антонія (Дзіяна Бруева, 12 гадоў).



Грэка-каталіцкая царква Уваскрасення (Каця Грышан, 11 гадоў. Юля Грышан, 9 гадоў).



Касцёл Святога Духа (Арына Пятроўская, 10 гадоў. Ціхан Пятроўскі, 6 гадоў).



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).

*Малюнак Анастасіі Каліноўскай.*

# «Гэта Я, не бойцеся...»

**Евангелле паводле святога Яна**
*Раздзел 6, вершы 16–21*

Калі настаў вечар, вучні Ягоныя сышлі да мора і, сеўшы ў човен, паплылі на другі бераг мора ў Кафарнаўм. І ўжо сцямнела, а Езус не прыходзіў да іх. Ад моцнага ветру хвалявалася мора. Праплыўшы каля дваццаці пяці ці трыццаці стадыяў, убачылі Езуса, які ішоў па моры і набліжаўся да чоўна, і спалохаліся. Ён жа сказаў ім: **«Гэта Я, не бойцеся!».** Хацелі ўзяць Яго ў човен, але човен адразу прыстаў да берага, куды яны плылі.







# Дзе браць адвагу?

Тое, што Езус ходзіць па вадзе, – гэта адно з надзвычайных здарэнняў, якіх шмат у Евангеллі. Яно яшчэ раз пераконвае нас у тым, што для Бога ўсё магчыма. Для нас, людзей, ёсць шмат немагчымых рэчаў, а Бог можа ўсё.

І калі Ён такі моцны, то мы, вернікі, маем надзейнае апірышча. Мы не павінны нічога баяцца, бо Ён сам кажа нам пра гэта. Адно што, і на сушы, і на моры мы павінны трымацца за Яго, які можа ўсё. Езус дае чалавеку адвагу, сілу, моц. Важна толькі моцна давяраць Таму, Хто здольны хадзіць па моры.

Чытаем Біблію... разважаем над ёй...
Эффата
Евангелле паводле святога Марка
Раздзел 7, вершы 31–35

[Езус] выйшаў з межаў Тыра і прайшоў праз Сідон да Галілейскага мора, пасярод зямель Дэкаполіса. І прывялі да Яго глуханямога, і прасілі, каб усклаў на яго руку.

Адвёўшы яго далей ад натоўпу, [Езус] уклаў у яго вушы свае пальцы і, паслініўшы,

